// УЗДЫМ

ВОРГАН БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ НА ВЫГНАНЬНІ

M. Kobiako, 4234 Mapledale Ave. Cleveland 9, Ohio

ГОД II | ЛЮТЫ - САКАВІК 1964 | Нр. 3




ВІТАЕМ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ З СЬВЯТАМ 46-ых УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

## 25-ГА САКАВІКА
## ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

У гістарычны Дзень 25 - га Сакавіка 1918 году Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,выконваючы волю Беларускага Народу,абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай.

Ад гэтага часу ў жыцьці Беларускага Народу распачынаецца новы пэрыяд - этап незалежнасьці і сяньня мінае ўжо роўна 46 гадоў.Сам жа Дзень 25 - га Сакавіка зьяўляецца агульна прызнаным і заўсёды ўрачыста адзначаным нацыянальным сьвятам Беларускага Народу на эміграцыі або пакрыёма на Бацькаўшчыне.

З бяспрыкладнай у гісторыі народаў адвагай вядзе Беларускі народ змаганьне за сваё вызваленьне ад чужацкае няволі,іначай кажучы імкнецца да свабоднага і мірнага жыцьця. Бо свабода - гэта дар Божы, гэта найвялікшы скарб дадзены Стварыцелям чалавеку,гэта зьмест жыцьця, гэта аснова імкненьня кожнага народу.

Розум і павага зь якою Беларускі Народ ставіўся да самастойнага дзяржаўнага жыцьця, як ў мінулым,за часоў Вялікага Княства Літоўска-Беларускага і чужацкае акупацыі,а так сама і ў часе вызвольнага змаганьня,як творчай волі ўсяго Беларускага Народу, дэмакратычнага па істоце і цьвёрдага ў сваіх пастановах,што само гаворыць за правідловасьць ягонага шляху.

Гэтага ня могуць адкінуць і безстароннія дасьледчыкі беларускага руху нават з варожага лягеру.

Рознымі шляхамі ішло беларускае нацыянальнае адраджэньне пасьля занепаду: праз беларускую мову і песьню,праз лірычныя сьпевы беларускіх народных пісьменьнікаў, праз змаганьне беларускіх жаўнераў,праз вандроўкі лепшых беларускіх сыноў у Сібір,на Салоўкі,у Казахстан, Варкуту ды турмы, праз гарт волі, праз гэраізм і адвагу ў змаганьні як пасярод чужых вайсковых аддзелаў, гэтак і нацыянальна-беларускіх.

Усё гэта разам узятае зьбіралася ў Менск у беларускую сталіцу, каб адтуль абвесьціць сьвету свае імкненьні і няўміручую волю да свабоды.

І калі ў 1917 годзе выбухла ў Расеі рэвалюцыя, ужо 15 сакавіка беларусы ў Петраградзе ўкладаюць рэзалюцыю,дамагаючыся падзелу Расейскае Імпэрыі на+фэдэральныя рэспублікі,а хутка з"арэнтаваўшыся, што ні ад кога няма [illegible],а трэба разьлічваць толькі на свае собскія сілы і дзеяць. На аснове гэтага на працягу некалькіх месяцаў беларускі актыў ужо настолькі змацнеў і пашырыўся,што надыйшоў час ськіраваць яго ў адно згоднае рэчышча,стварыць аўтарытэтнае цела,дзеля вырашэньня неадкладных пытаньняў ў справе будучыні Беларускага Народу. Таму ў кастрычніку 1917 году й была створаная з прадстаўнікоў беларускіх вайсковых,дыпрожных беларускіх арганізацыяў і партыяў, Вялікая Беларуская Рада,якая і пастанаўляе ськлікаць Усебеларускі Кангрэс.Патрэбаж прысьпешыць ськлікаНьня Кангрэсу сталася таму,што над Беларускім краям і народам павісла новая небясьпека.

Уладу ў Расеі ў тым часе ўжо захапілі бальшавікі,якія нясучы на сваіх штыхох сусьветную рэвалюцыю,гэтыміж штыхамі душылі ўсялякія праявы нацыянальна-вызвольнага адраджэньня нерасейскіх народаў, населяючых ў тым часе ейныя прасторы.

А польскія абшарнікі,апіраючыся на зарганізаваны ў тым часе ўва Ўсходняй Беларусі корпус гэнерала Довбур-Мусьніцкага,гэтак сама

+спадзявацца падмогі

не хаваў сваіх захопніцкіх намераў.

Вось у якіх абставінах распачаў сваю працу 15 сьнежня 1917 г. Усебеларускі Кангрэс. А да ўсяго гэтага яшчэ даволі ладная колькасць дэлегатаў на Кагрэсе была прорасейскага настрою ды заняўшы Менск бальшавікі збройна апаноўваюць будыкак,дзе адбывалася паседжаньне Кангрэсу,супроць усяго гэтага Кангрэс прыняў пастанову,абвясьціць Беларусь вольнай дзяржавай і выбраў Раду ,пераказваючы ёй паўнамоцтва на далейшае змаганьне да незалежнага жыцьця [illegible]ды. вылучаны з паміж сяброў Рады Кангрэсу Выканаўчы Камітэт,быў пераіменаваны ў Народны Сакратарыят і стаўся першым урадам Беларускае Рэспублікі. Ім была выдана Першая і другая Ўстаўная Грамата ,зарганізаваны першыя беларускія вайсковыя аддзелы і дзяржаўны апарат, які аднак змушаны быў працу праводзіць у падпольлі.

Пасьляж зрыву ў Берасьці мірных перамоваў паміж бальшавікамі і немцамі,нямецкая армія 25 лютага 1918 году ,прадпрыняўшы марш на ўсход заняла Менск,ды адчынілася спалучэньне беларускіх дзеячоў з Вільня,якія ўвайшлі ў склад Рады і мелі чыста незалежніцкі кірунак, пачала крысталізавацца думка аб поўным разрыве з Масквою.

24 сакавіка 1918 году было склікана паседжаньне Рады з удзелам і дэлегатаў з Вілня,на якім пасьля ўсяночных дэбатаў 25 сакавіка на разсвеце з усходам сонца была абвешчана Вольная і Незалежная Беларуская Дзяржава. і выдана III-я Устаўная грамата.

Ад гэтага часу і па сяньняшні дзень Акт 25 Сакавіка зьяўляецца найвялікшай нацыянальнай падзеяй у гісторыі вызвольнага змаганьня Беларускага Народу.І хоць перавагаю фізычнае сілы акупанты ізноў наш край,але ідэал незалежнасьці не згас у імкненьнях Беларускага Народу. І таму ўспамінаючы гэты дзень мы павінны сягаць памяцьцю ня толькі да часу аднаўленьня нашае дзяржаўнае незалежнасьці,але і ўвскрашаць у памяці ўсё яго мінулае. Мы павінны ўсьведамляць працяг,лучнасьць пасьлядоўнасьць усіх формаў Беларускага дзяржаўнага жыцьця ад найдаўнейшых часаў.У супраціўным выпадку мы можам згубіць магчымасьць справядлівае ацэны значаньня 25-га Сакавіка і гэтым самым абнізіць вартасьць змаганьня за ідэал незалежнасьці,ідэал свабоды і жыцьцярадасьці.

Няхай мы ў трауры адзначаем Гэты Вялі Дзень,бо не давялося яшчэ канчаткова зьдзейсьніць ідэалаў 25-га Сакавіка.Мы не павінны зьневярацца. Мы павінны верыць,што праўда перамагае,а таму перамога пэўная. Мыж зьяўляемся сьветкамі,што Акт 25-га Сакавіка стаўся зваротным пунктам у нашай славутай гісторыі.Сьляды і вынікі яго бачым у кожнай галіне нашага нацыянальнага жыцьця.Бачым іх ува ўсіх кірунках нашага вызвольнага змаганьня,якое павінна закончыцца нашаю перамогаю, бо яно не спыніцца да таго часу,пакуль ідэя незалежнасьці не станецца рэальным фактам і не ўкаранує ўсіх высілкаў і вялізарных ахвяраў Беларускага Народу!

=====================

Дэклярацыю аб незалежнасьці Амэрыкі напісаў тагачасны адвакат, а пазьнейшы прэзыдэнт Амэрыкі Джэффэрсон у якой гаворыцца:
"Усе людзі створаны роўнымі і напэўна нязьменнае права было для іх праднaзначана Стварыцелям. А якоеж гэта права? Права на жыцьцё і свабоду. Права пагоня за шчасьцям" А калі нейкая форма ўрадаваньня супярэчыць гэтым правам,то народ мая права зьмяніць яго,або зьмяніць урад і паклікаць новы." Гэткі зьмест дэклярацыі быў ськірованы супроць падаткаў і абмяжаваньня ў гандлю ўчасе акупацыі Амэрыкі Ангельцамі.

=================

=================================================================

Вытрымкі
З дакладу чытанага ў Беларускім Студэнскім Клюбе ў Празе 16-га студзеня 1926 гоу Старшынёю Рады БНР П.Крэчэўскім

...Акупанты беларускай тэрыторыі,як на Захадзе /Палякі/,так і на Ўсходзе /Расейцы/ само сабою разумееца ня мелі права,як прэтэндаваць на беларускую тэрыторыю,так і адмаўляцца ад той,ці іншай часткі неналежачай ім зямлі, згодна папярэдняму вызнаньню незалежнасьці і суверэннасьці Беларусі...
РСФСР на ўсходзе знайшла выхад,бо ўбачыўшы,што вайна 1920 г. праграна збвесьціла Савецкую Сацыялістычную Беларускую Рэспубліку і праз гэта пачала прэтэндаваць на сувэрэннасьць Беларусі без згоды на гэт беларускага народа.

Зусім іначай глядзела на справу Польшча.Страціўшы надзею на граніцы 1772 г.,Польшча не хацела адмовіцца ад нейкага сувэрэнітэту на падставе гістарычных правоў Люблінскай вуніі 1569 г. на значгую частку Заходняй Беларусі,з Менскам уключна.Дзеля гэтага Пілсудскі і Падарэўскі ,прыкінуўшыся прыяцелямі Беларусі,угаварыў Старшыню Рады Міністраў-Луцкевіча ў Парыжы,выехаць ў Варшаву і Менск,каб там распачаць нібы -то дзяржаўную дзейнасьць пад варункам,што Луцкевіч/Антон/ угаворыць Раду і беларускае грамадзянства стаць на лаяльны шлях да Польшчы...
Пілсудскаму і яго спадручніку ў Менску-Ваевудскаму хацелася атрымаць ад Рады Рэспублікі мандат на сувэрнітэт у Заходняй Беларусі.
Каліж высьветлілася,пасьля прыезду заграгнічных дэлегатаў у Менск, што бальшыня Рады настроена ввaрожа да Польчы і ні на якія кампрамісы з Полчаю пайсьці ня можа,тады Ваевудскі,паманіўшы мільёнамі п..рад паляна фільскай часткай Рады,запатрабаваў расколу Рады.Але настрой у Радзе і паміж беларускім грамадзянствам быў настолькі варожы да Польшчы і перэкідчыкаў-Радных,што пакорныя Пільсудскаму сябры Рады, не адважыліся прыйсьці на сход Рады 13-га сьнежня 1919 г.
Сход Рады за прысутнасьцю кворума,адбыўся без палянафілаў і заміж прывітаньня Пільсудскаму ,як яны прапанавалі,вынес рашучы пратэст супроць акупантаў.
Рада БНР не здрадзіла сувэрэнітэту свайго народа і захавала мандаты і правы на ўладу.
Нававыбранаму Прэзыдыюму Рады былі перададзены вярхоўныя правы Беларускага Народу,да тае пары,пакуль яны ня будуць мець магчымасьці зьвярнуцца на Бацькаўшчыну.
Аднак ня гледзячы на такі абарот справы,на другі,ці на трэйці дзень пасьля праўнага і паўнамоцнага сходу Рады,адбыўся і прыватны сход адкалоўшыхся палянафілаў,якія пабаяліся выявіць свой твар перад Беларускім Народам і яны,зышоўшыся на кватэры Уласава стварылі фальшывы прэдстаўнічы ворган Беларускага Народу,патрэбны для палякоў,пад наз. "Найвышэйшай Рады"
Але пачуцьцё "Найвышэйшых" было надзвычайна дрэннае,бо нават і Палякі ўбачылі,што ніякай юрыдычнай цэннасьці такая ўстанова мець ня можа і на аснове яе прэтэндаваць на голас беларускага народу,я тым барждзэй на сувэрэннасьць Беларусі,не прыходзіцца.
Пры такіх варунках,нават Старшыня Польскай Дэлегацыі Домскі ў Рызе ня мог карыстацца заявай "Найвышэйшай Рады",адпісанай Іваноўскім, што беларускі народ згаждаецца на культурна-нацыянальную аўтаномію ў Полшчы.Здрада "Найвышэйшай Рады" сталася яснай ня толькі для Палякаў,але і самых "Найвышэйшых"...

Літва скарысталася з цяжкога матарыяльнага становішча Рады Рэспублікі і Ўраду,запрапанавала Старшыні Рады-Ластоўскаму службу па вызн..

чанай пэнсіі і нейкую,для вока, беларускую культурную працу,заміж шырокага супрацоўніцтва з Беларускім Урадам на аснове ўмовы II кастрычніка 1920 г.

Сымпатыі Ластоўскага да Літвы былі даўно ведамы,але да Гэнуэзскай Канфэрэнцыі яны не шкодзілі беларускай справе і не супярэчылі ўмове з Літвою.

Пасьляж падачы ў Гэнуі ў 1922 г. на імя Старшыні Рады Міністраў Літоўскай Рэспублікі Гальваноўскага аб перадачы Вільні Літве,на што Беларусы ніколі не згаджаліся і не маглі згадзіцца беззгоды народу, Ластоўскі,а таксама і Цьвікевіч,падпісаўшы гэтую заяву,змушаны былі падаць у адстаўку. Адстаўку ў адсутнасьці Старшыні Рады Рэспублікі прыняў намесьнік Старшыні В.Захарко. Пры звароце з Прагі Старшыні Рады Рэспублікі,пры новых умовах і адмове, як Ластоўскага так і Цьвікевіча,была ўтворана дзяржаўная калегія, пад кіраўніцтвам Старшыні Рады, у якую былі запрошаны,за адсутнасьцю людзей заграніцай,зноў Ластоўскі і Цьвікевіч.Аднак ужо пасьля ўсяго таго,што было папярэдняй кансалідацыі не засталося і суадносіны паміж сябрамі Ураду з кожным днём псаваліся і далей працаваць у такіх умовах было немагчыма.

20-га красавіка 1923 г. Ластоўскі змушаны быў падацца ў адстаўку.

Пратаколам ад таго 20 красавіка 1923.г. Адстаўка яго была прынята.

Ластоўскі адыйшоў,адмовіўшыся зусім ад палітычнай справы,прыракаючы ня толькі не перашкаджаць справе,а нават памагаць.

Аднак з ад"ездам Рады Рэспублікі і Ураду ў Прагу,Ластоўскі змушаны быў рабіць не тое,што яму хацелася,а тое,што загадваў Літоўскі Урад. У неўзабаве прышлося бачыць Ластоўскага ў Жэневе /Швайцарыя/, як беларускага прадстаўніка ў ролі абаронцы Літоўскіх інтарэсаў. /Адсюль ёсьць зусім зразумелым,што Ластоўскі ў тым часе заміж пашыраць свой славуты гістарычны назоў Літва, пачаў пашыраць назоў "Крывія"Крывіч",які ўнёс столькі сварак і закалотаў сярод беларускага грамадзянства на эміграцыі.Прып. Рэдакцыі/.../З бюлетэню РБНР № I Прага 1926г./

=============================

## ПАЛІТЫКА І РЭЛІГІЯ.

У газэце "Бацькаўшчына" №515-516 з 14 .8.60,надрукаваны два артыкулы,прысьвечаныя хіратоніі а. Сіповіча на Эпіскапа.Артыкулы напісаны так,што няма ў іх аніводнага слова вуніят,вуніяцкі,а толькі каталік, каталіцкі.Атрымоўваецца запраўды ўражаньне,што а. Сіповіч хіратанізавны на каталіцкага біскупа і гэтым самым быў паложаны пачатак беларускай каталіцкай Іерархіі,а разам з гэтым і ўнезалежненьне беларусаў каталікоў ад польскага зьверхніцтва.

Гэткую важную падзею,бязумоўна,шчыра прывітаўбы кожны сьведамы беларус,але на вялікі жаль у сапраўднасьці гэта выглядае зусім інакш.

Зацемка ў першым артыкуле,на першай балонцы "на працягу 121 года беларусы-каталікі,якіх налічваецца звыш 2,5 мільёнаў вернікаў ня мелі ніразу аніводнага беларускага Эпіскапа"...адразу расшыфроўвае сэнс артыкулу.Калі ад 1960 г.адняць 121 г.,дык атрымаем 1839 год ліквідацыі царкоўнае вуніі расейскім урадам. Ад таго часу ня было на беларускіх землях вуніятаў і ніякага вунійнага духавенства.Дык хіратонія праведзена для вуніятаў,якія не існуюць сярод беларускага народу,а каталікі беларусы як былі дагэтага часу без апекі духовае беларускіх біскупаў,і далей застаюцца пад чужацкаю апекаю польскае,або іншае іерархіі.

У часе ліквідацыі вуніі ў 1839 г. значная частка вуніятаў вярнулася назад і далучылася да праваслаўя - гэта пераважна тыя, якія пад прымусам былі польскім урадам і рознымі Кунцэвічамі сілаю загнаны да вуніяцтва, другая частка, якая пад дзеяньнем розных плыняў і дзеяньнем польскіх урадоўцаў, ды польскага каталіцкага клеру, прыняла каталіцкую веру Ад гэтага часу і пачаў пашырацца афіцыйна назоў для каталікоў польска вера, а для праваслаўных расейская, руская вера. Гэта і была найвялікшая трагэдыя ў гісторыі нашага народу.

Праз царкву і касьцёл русыфікавалася і палянізавалася ня толькі інтэлігэнцыя, але і сялянства ды мяшчанства. Беларусы каталікі, хоць і карысталіся ў штодзённым хатнім жыцьці беларускаю моваю, але ў касьцёле стараліся гаварыць г.наз. "сьвятоčнаю" польскаю моваю і лічылі сябе палякамі, а праваслаўная інтэлігэнцыя лічыла сябе рускімі. Апалячаньню апрача клеру ў значнай меры садзейнічалі дадатковыя "набажэнствы" ў польскай мове, польскія малітоўнікі, сьпевы і мэлёдыі рэлігійных спэцыяльна польскіх напеваў, каторыя нават не існуюць паміж каталікоў ў заходніх гаспадарствах. Польская каталіцкая Іерархія усёцэла апякавалася беларусамі-каталікамі, праводзіла гутаркі толькі папольску і належала да юрысдыкцыі ў Варшаве.

Польская Духоўная Каталіцкая Сэмінарыя ў Вільні й Духоўная Акадэмія ў Пецярбурдзе былі польскімі палянізацыйнымі цэнтрамі. Сучасны Япіскап Слосканс гэтак сама належаў да польскае Іерахіі, таму ягонае прызначэньне для апекі над расейцамі і беларусамі ёсьць далейшым працягам апекі польскага каталіцкага зьверхніцтва.

Палякі заўсёды лічылі і сёньня лічаць беларусаў каталікоў палякамі і што апека над імі павінна належаць толькі польскаму духавенству і на аснове гэтага дамагаюцца каб Беларусь ў межах 1772 г. была залічана да Польшчы, або ў немагчымых выпадка была створана нейкая фэдэрацыя падобная вуніі Літвы з Польшчаю і як наглядаецца гэтую ідэю нават гатовы падтрымаць некаторыя нашыя сучасныя "дзеячы".

Аб нейкай незалежнасьці Беларусі Палякі ня хочуць і слухаць і цяпер, і не прызнаюць акту абвешчаньня незалежнасьці 25 Сакавіка 1918г.

Вось жа з гэтых прычынаў Польскі Эміграцыйны Урад ў Лёндане і склаў пратэст у Ватыкане супроць намеру хіратоніі беларускага ксяндза лацінскага абраду на каталіцкага біскупа. І гэты пратэст Польскага Ураду Ватыканам быў прыняты да ведама і ім дадзены загад хіратанізаваць каталіцкага ксяндза як біскупа для бел. вуніятаў, якія ўсапраўднасьці не існуюць сярод беларускага грамадзянства. Гэтым самым Ватыкан, усьлед за палякамі падкрэсьліў непрызнаньне ім незалежнасьці Беларускае Рэспублікі, а выканаў просьбу польскіх палітыкаў. /Бел. царква №. бал.12/

Якжа зарэагавалі на гэтую падзею нашыя Радныя БНР, Урад, Старшыня Рады і іншыя каталіцкія дзеячы? -Рада і Урад прамаўчалі. Згодна праўдападобных вестак з асяродзя Рады БНР, Сп. Шукелайць і др. Тумаш радзілі Старшыні Рады сп. М. Абрамчыку злажыць пратэст у гэтай справе ў Ватыкан. Старшыня Рады інж. Абрамчык спачатку адмаўляўся пратэставаць, але ўрэшце згадзіўся і...не запратэставаў. А ў "Бацькаўшчыне" №515-516 чытаем: "наступным прамаўляў Прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык. Ён выказаў глыбокае задаваленьне з гэтае падзеі, прыгадаў цяжкія і ахвярныя змаганьні беларускага народу і беларускае царквы пад шматгадовымі чужацкімі акупацыямі. На заканчэньне ён пажадаў добрых вынікаў у працы новага душпастыра для дабра свайго народу!"...

Сумна! Нас не прызнаюць, а мы выказваем вуснамі нашага прадстаўніка "глыбокае задаваленьне" за гэта!

===================

## АБ ПЛЯТФОРМЕ ДЗЕЯНЬНЯ

На запытаньне нашых шматлікіх паважаных чытачоў "Уздыму" якая плятформа і мэта нашага дзеяньня сяньня мы можам толькі адказаць коратка,што кожны крок нашага жыцьця і дзеяньня на шляху да незалежнасьці Бацькаўшчыны - ёсьць аснаўною нашаю мэтаю і павінен быць мэтаю нашых нашчадкаў.

Плятформа вытвараецца паступова і ўкладваецца згодна жаданьняў бальшыні беларускаг грамадзянства ў сучаснасьці на выгнаньні за немагчымасьцю гэтага чыніць на Бацькаўшчыне. У першую чаргу неабходна зрабіць падлік сілаў і ўзяць пад увагу іхнія жаданьні,і тады на аснове гэтага тварыць плятформу, на якой і павінна базавацца ўся праца. Кожнаму з нас ведама,што дагэтага часу ўсё дзеяеьне нашае эміграцыі праводзілася за пасярэдніцтвам нейкага прымусу,нейкага накіду ідэалёгіі,жаданьняў без апрабаты шырэйшых колаў нашага грамадзянства.А мяноўна:знайшлося пару асоб,якія за пасярэдніцтвам прэсы,або нейкіх ліс товак ці вуснае прапаганды за пасярэдніцтвам патрыятычных лёзунгаў, знайшлі яшчэ некалькі чалавек,якім прырэклі,што будуць міністрамі,або высокімі ўрадоўцамі ў будучай Беларусі,а вайскоўцам будуць падвышаны іхнія чыны,стварылі нейкае ўгрупаваньне.

Ведама,што ў гэтым самым часе дзеяла і некалькі іншых угрупаваньня якія выступалі і супроцьдзейнічалі паўстаўшаму ўгрупаваньню,але кіраўнікі гэтага ўгрупаваньня не здабыліся на цягласьць дзеяньня,а галоўнаю прычынаю іхняе слабасьці было тое,што і там кіраўнікі стараліся заўсюды быць зьверхнікамі і не дапусьціць да кіраўніцтва гатовых сапраўды змагацца за ідэалы справядлівасьці і роўнасьці.

А таму на працягу амаль 20-ці гадовае эміграцыйнае працы мы бачым на кіраўнічых становішчах тых самых людзей у абодвых існуючых угрупаваньнях,мэтаю якіх ёсьць і далей затрымаць існуючы стан у арганізацыях і то нават у тым выпадку калі да адганізацыі,або ўгрупаваньн будзе належаць некалькі асоб.

У выніку гэткага спосабу кіраваньня і дзеяньня мы бачым,што ўчасе выбараў у розных арганізацыях адчуваецца нястача людзей ,бо існуючая сыстэма кіраваньня,дзе часта галоўную ролю адыгрывае і матарыяльнае забяспечаньне, зьеахвоціў да працы іншых і нежаданьне супрацоўнічаць зь імі і таму адмаўляюцца быць выбранымі ў склад упраў.

А таму сёньняшнім адказам на пытаньне нашых паважаных чытачоў якая нашая плятформа дзеяньня можам толькі адказаць: I.Самаахвярнасьць і працавітасьць для дабра Беларускага Народу,2. Аб"яднаньне ўсіх творчых сілаў на выгнаньні,3.Утварэньне адзінага беларускага рэпрэзэнтацыйнага цэнтру,якіб каардынаваў усю арганізацыйную,культурна -асьветную,рэпрэзэнтацыйную і палітычную працу бел. эміграцыі.Коратка кажучы быў тым насьбітом ідэалаў і прарокам,якіб вывеў з блудных і завілiных сьцежак на простую дарогу нашыя ідэалы і імкненьні,да якогаб аднесьліся ўсе з даверам і чаго чакаюць амаль ўсе беларускія выгнанцы.

Гэта толькі агульныя вехі,якія патрабуюць шырокае і дакладнае апрацоўкі і ўкладу праграмы дзеяньня. А каб праграма для бальшыні падабалася і была прынятаю вельмі пажадана каб кожны перадумаўшы прысылаве праекты да рэдакцыі.

Дзеля выкананьня гэтага давайце ўлянем на справу рэальна і падлічым свае сілы,ды паглядзім дзе яны? Яны ёсьць.Яны пасярод нас. Ня так бедныя мы ў сучаснасьці ў нацыянальнай інтэлігэнцыі і практычных і сьведамых змагарох. Ёсьць пад дастаткам людзей з вышэйшаю асьветаю як: пэдагогаў,інжыняроў,эканамістаў, гісторыкаў,аграномаў,жур-

наліставу.Чаму яны не працуюць? Адказ адзін.Непагаждаюцца з сучасным дзеяньнем і палітычнымі паглядамі тых сучасных кіраўнікоў,якія самапраўна высунулі сябе на кіраўнічыя становішча і ня хочуць выпусьціць кіраўніцтва з сваіх рук ды каб іхняе мейсца не занялі тыя, якія арганізацыйную працу павядуць справядліва, дапасуюць яе да сучаснага эміграцыйнага жыцьця,павядуць згодна вымогаў часу і зоймуць разумную і рачовую канцэпцыю адносна сваіх суродзічаў і ўрадавых чыннікаў.А магчымасьцяў у працы тут вельмі шмат,бо ніхто не перашкаджае апрача самі сабе.Трэба толькі за працу ўзяцца шчыра і абасноўваць яе не на фальшы,не на гучных лёзунгах,не на абяцанках,а на прынцыпах справядлівасьці,на шчырасьці,на самаахвярнасьці не для асбістых выгадаў,пасьля чаго не засталосябі сьледу пасьля яе,а для дора агульна-беларускага, за ідэал незалежнасьці Бацькаўшчыны працаваць.

Гэта ёсьць нашаю плятформаю зь якою мы неразлучны і з гэтаю мэтаю мы распачалі выдаваць гэты сьціплы часопіс які назвалі "Уздым",каб ён сапраўды ўзьняў усіх тых якія сьведамы таго,што жыцьцё-гэта змаганьне за існаваньне,змаганьне за ідэалы,якімі ў выгнанца павінны быць-паварот ў Вольную Бацькаўшчыну-Беларусь!

========================

## Сьв. ЯЗАФАТ /Працяг з Уздыму № 2/

На балонцы 46 свае кнігі сп. Панцэвіч апісваючы вушійны Зьезд у Навагрaдку,ськлiканы Мітрапалітам Руцкім,на якім прысутнічаў і Архіепіскап Язафат піша,што"былі вынесены ня толькі пастановы,але і зложаны пратэст ў Рым каб Папа забараніў вернікам пераходзіць з усходняга абраду на заходні,а лацінскім духоўнікам ды езуітам у асаблівасьці не прымаць людзей без дазволу Апостальскага пасаду.Што за недарэчнасьць.Паштож езуіты высылаліся на беларускія землі і каму яны падпарадкаваліся? Не Папу? А ў іншым выпадку ці мог бы мець Язафат нешта агульнае з езуітамі,калі з Кальвіністамі,або іншаверными нават спатыкацца не хацеў! Ды як тамжа ўспомнена,што быццам на тымжа зьездзе нібы выносіліся пастановы супроць дзеяньня езуітаў,а самжа Язафат пайшоў да іх на ўтрыманьне,небяручы пад увагу просьбу ўплывовых Палачан каб не ішоў да іх",каб ня быць ўдзельнікам іхніх нядобрых учынкаў"./Бал. 44/.Аднак пайшоў,бо мэта і сыстэм дзейнасьці супроць праваслаўных былі тыя самыя.

"Вянуўшыся за Зьезду ў Полацак Язафат неадкладна прыступіў да рэарганізацыі дыяцэзыяў".А зь ведамых крыніцаў гэтая дзейнасьць вот начым бвавалася: I/Адразу быў разасланы циркуляр па ўсіх падлягаючых дыяцэзыяў з загадам,каб праваслаўныя сьвятары з вернікамі пераходзілі на вунію; ахто з сьвятароў гэтага не выканае будзе выгнаны з парафіі,а царква перaказана для вуніі. 2/ пачаў зачыняць праваслаўныя цэрквы; 3/забараніў праваслаўныя Багаслужбы; 4/ сьвятароў,каторыя не пайшлі ў вунію,закоўваў ланцугамі,садзіў у турмы; 5/палякам загадваў прасьлядаваць праваслаўных. Аб гэтым ўсім выразна сцьвярджае скарга праваслаўнае шляхты Беларусі і Украіны Варшаўскаму Сойму з 1623 г.,дзе гаворыцца:

..." Нейкі адступнік Епіскап Полацкі званы Язафатам Кунцэвічам, на Белай Русі - у Оршы і Магілёве на працягу ўжо 5 гадоў трымае цэрквы апячатанымі. У Полацку і Віцебску ў выніку гэтага апячатаньня няма ні царквы ані дому,дзеб была дазволена Багаслужба.Дзеля гэтага мяшчаны горада змушаны ў нядзелі і другія ўрачыстыя сьвяты маліцца ў полі за горадам і то бяз сьвятара,бо яму забаронена быць у горадзе і ваколіцы.

Яшчэ больш жорсткая і нябывалая тыранія і зьверствы наступныя:

у тым-жа Полацку беларускім той-жа адступнік - епіскап Полацкі ў леташнім годзе сьведама загадаў тамашнім мяшчанам дзеля большае крыўды выкапаць мерцьвякоў,толькі што пахованых на магільніку і выкінуць хрысьціянскія целы з магілаў,як якую нібудзь падліну,на ежу сабакам. Гэткія і ім падобныя нязьлічаныя бяспраўя горш чым у паганаў,а прымус мы цэрпім ува ўсіх ваяводствах і паветах...

Дзеля гэтага і цяпер ветліва просім згодна Вашага сэнатарскага становішча пасадзейнічаць перад Яго Міласьцю вялікім нашым каралём, каб яблыка закалотаў,як назваў гэту вунію сьв. памяці вялікі кароль Сьцяпан,кінутае паміж палякамі і русамі і літоўцамі /беларусамі/было зьнішчана..."/Пераклад з польскага.Дакуманты, № 179,Беларусь у эпоху фэадалізма том I бал. 401/

Гэткі тэрарыстычны мэтад дзеяньня Язафата супроць праваслаўных ня мог не выклікаць рэакцыі з боку насельніцтва.
Напрыклад,калі Язафат меўся ўехаць у Магілёў,дык жыхары горада зарганізавалі самаабарону,паставіўшы на сьценах горада гарматы і загразілі,што будуць страляць калі Язафат падедзе да брамы горада. А калі Язафат захацеў заўладаць майном Барыса-Глебскага манастыра і загразіў вайною ў выпадку адмовы,то ўласьнікі гэтага манастыра праваслаўна-літоўска-беларуская шляхта Карсакі,Тышкевічы, Шчыты і іншыяразам з мяшчанамі ды сялянамі гэтак сама заселі і на сьценах горада выставілі гарматы для абароны манастыра.Але ўжо тут Язафат не паўстрымаўся ды распачаў аблогу,якая трывала II дзён,супроць добра ўзброеных Язафатавых вуніятаў ды пакліканых на дапамогу палякаў.Манастыр быў сілаю аружжа здабыты і майно Язафат разам з манастыром прысвоіў. А тагачасны кароль яшчэ ў дадатак загадаў заплаціць Язафату 30 тысяч залатых польскіх,як адшкадаваньня.

Гэткім спосабам Язафат пад падтрымкаю караля здабыў боль як хацеў,бо пад націскам караля і палякаў ды на жаданьні Язафата,ня толькі манастыр з майном,але і былыя ўласьнікі змушаны былі перайсьці не толькі на вуніятаў,але адразу на рыма-каталікоў.А гэта і была вялікая заслуга Язафата перад палякамі,а балючая рана для беларусаў. /З апісаньня Віленскага Брацтва/

## СЬМЕРЦЬ ЯЗАФАТА.

У 1623 годзе Язафат прыехаў у Віцебск дзе пачаў яшчэ з большым запалам і ненавісьцю прасьледаваць праваслаўных,што было роўназначна з прасьледаваньнем першых хрысьціянаў.

Жыхары Віцебска доўга і цярпліва ўсе зьдзекі пераносілі.Падмогі не ад каго ніякае ня можна было спадзявацца.Кароль,суды і сойм былі ў абароне Язафата.За ім гарою стаялі і ўсе польскія духоўнікі.Яго бараніў Рым,бо ён быў яго слугою і выканаўцам.Усе скаргі да сойму, да караля ня браліся пад увагу.А таму безабаронныя жыхары Віцебска ў абароне правоў чалавека,вырашылі дзеяць самастойна без ніякіх пабочных ўплываў.

Калі ў нядзелю 12 лістапада 1623 г.,архідыякан Язафата Дарафей заўважыў,што праваслаўны сьвятар Ільля пераехаў на чаўне праз Дзьвіну каб адправіць для праваслаўных Багаслужбу,Дарафей з сваімі прыслужнікамі напаў на Ільлю ды цяжка яго пабіўшы,зьвязаўшы рукі і ногі замкнулі ў кухонным пакоі Язафата.

Маланкова вестка пра гэта разьнеслася па горадзе,зазванілі ў званы і народ зьбегся да палацу каб звольніць свайго сьвятара.Звольніўшы яго накінуўся на слугаў Язафата,а пазьней дастаўшыся да пакою Язафата,сякераю разьбілі яму галаву,а потым выстралам стрэльбы дабілі яго.

Згодна-ж каталіцкіх крыніцаў аб гэтым здарэньні гаворыцца іначай

а мяноўна:" Язафат сабраў служакаў,забараніў ім набіваць стрэльбы пулямі,а страляць толькі для пастраху сьляпымі набоямі"/жыття Йосафата Кунцэвича./Канадыйскае выданьне бал.43/.

Сп-р жа Панyцэвіч пакліkаючыся нібы на том I,203 бал.,а можа згодна сваіх думак/а фальшаваць ён майстар/,на 92 балонцы піша:..пачуўшы званы,ды пабачыўшы,што зьбягаецца натоўп загадаў выпусьціць яго /зн.Ілью натоўп жа загарадзіў яму дарогу пры выхадзе з царквы,але ніхто не асмеляўся напасьці на яго...",а далей піша:"яны,г.з. кіраўнікі загавору далі загад штурмаваць палац,баронены 5-цю ахоўнікамі,узброенымі ў стрэльбы.Штурм трываў каля трох гадзінаў.Калі ў аховы не стала вострае амуніцыі ды пачаліся стрэлы з папяровымі ладункамі,натоўп сякерамі і ламамі разьбіў дзьверы ды ўварваўся ў палац."

Ціж гэта не сьведамая ілжа напісана.Спаткаўшыся пры выхадзе з царквы не адважыліся біць,а пазьней ня гледзячы на стрэлы пачалі ламацца ў дзьверы? .А калі Язафат,як яго Панyцэвіч ўжо ў тым часе наз. сьвятым,быў сапраўды гэткім,то пашто-ж яму была аружная ахова? Усе хрысьціянскія мучэнікі адважна прымалі сьмерць за Хрыстовую веру.А тэму дапушчальна,што страляніна ўзьнесла людзкое абурэньне да гневу і кожны з думкаю,што " недастаткова яшчэ,што рабункам забірае нашыя цэркви,забараняе маліцца,забівае нашых сьвятароў,нас прасьледуе,ды яшчэ хоча павыстрэльваць" і давяло да выпадку забойства.

Характэрным зьяўляецца яшчэ адзін факт,што ўчасе рабунку знойдзены былі бочкі віна,мёду, і піва ў скляпох палацу. Ці-ж гэта не супярэчыць манаскаму стану Язафата? Ціж гэта згодна з хрысьціянскаю навукаю?

І калі раз"юджаны натоўп рабаваў дабро Язафата,то толькі затое, што яно было адабранае ў іх.Сам-жа аўтар ўспамінаў,што Язафата як прывязьлі ў Полацак,то мусіў пайсьці на жыцьцё да езуітаў,бо запасаў ніякіх ня было,а тут раптам зьявіліся гэткія вялікія каштоўнасьці. Тэму зусім зразумела,што Язафат адбіраў ад праваслаўных майно ў поўным значэньні гэтага слова на працягу свайго пабыту ў Полацку і Віцебску.Нішчыў ён не палату,не вокны,не бочкі з віном і півам,але нішчыў Праваслаўную веру,забіраў рабункам праваслаўныя цэрквы і будынкі ды ўсялякае іншае царкоўнае майно.Вось хто рабіў ў запраўднасьці жахлівае зьнішчэньне.

Між пералічанымі рэчамі,якія рабаваліся натоўпам вымяняюцца і гэткія рэчы.як: дарагое начэньне, серабро, золата, Адсюль відавочна, што Язэп-манах не цураўся золата і серабра. Бачым там і аружжа і ахову,што відаць неабходна было Язафату для свае работы,а таму зусім зразумела што вунія ўводзілася прымусам за пасярэдніцтвам аружнае сілы,гвалтам,тэрорам і гэта добра памятуе беларускі народ,а Вы еп. Панyцэвіч і ко.у дваццатым стагодзі задумалі разыгрываць нейкую чужую камэдыю.

/Працяг у наступным нумары.

==============================

## У ПОШУКАХ РАТУНКУ

Дзесяткі гадоў гаспадарча-калгасная сыстэмы на Беларусі давялі да галіты і голаду ўсяго насельніцтва. Прычын у гэтым далёка шукаць ня прыходзіцца,бо калі ў гэтым годзе Саветы афіцыяльна цьвердзяць аб неўрадзаю,то галоўная прычына ў тым,што без належнага ўгнаеньня зямля перастала радзіць.З гэтаю мэтаю нібы робяцца захады павялічыць прадукцыю мінеральных угнаеньняў.Дзеля гэтага плянуецца ў Салігорску пабудаваць другі калійны камбінат. Апрача гэтага быццам ў Горадні будуецца азотна-тукавы завод,разьлічаны на прадукцыю азоту.А фабрыка дзеля прадукцыі супэрфасфату быццам будзе будавацца ў Гомелі. Але да направы гаспадарча-калхознага сыстэму яшчэ далёка./Паводле часопісу"Беларусь"/

# ПРАПАЎШЫЯ СКАРБЫ

На дне мораў і акіянаў ляжаць тысячы затопленых караблёў,у якіх знаходзяцца вялікія скарбы.Пра такія караблі вядома ў Чорным і Міжземным марах,у Атлянтычным і Ціхім акіянах.

У 1702 годзе кароль Францыі Людовік 14-ты пасадзіў на гішпанскі трон свайго ўнука Піліпа пятага. Скарбніца новасьпечанага караля,нажаль, была зусім пустая. Для ліквідацыі фінансавага крызісу ў Гішпаніі з Гаваны выслана францускую эскадру пад камандаю Шата-Рэна. У яе склад уваходзілі ёмістыя гішпанскія галёны наладаваны пэрламі, ізумрудамі,серабром у зьлітках,залатымі самародкамі,і ўсякімі іншымі каштоўнасьцямі.Ля Азорскіх абтоказў Шата-Рэна сустрэўся са спэцыяльн высланым да яго пасланцом,які паведамі,што варожы англа-галяндскі флот у складзе 150 караблёў прытаіўся ля берагоў правінцыі Андалузіі

У сувязі з гэтым Шата-Рэна склікаў нараду капітанаў свайго "Залатога флота",на якім вырашана зьмяніць курс у напрамку затокі Віго. 22-га верасьня 1702 года "Залаты флот" увайшоў у гэтую затоку.Аднак усьлед за ім зьявілася англа-галяндская армада і пачалося няроўнае змаганьне.Францускія караблі загінулі,а гішпанцы самі падпалілі сва галёны.

У 1855 годзе слаўны францускі вадалаз Фларан Рамажэ задумаў з сьці гіганскія скарбы ў затоцы Віго.Усёж не ўдалося яму нічога здо быць.

20-га траўня 1922 года на моры ў 50 кілямэтрах ад паўночна-заходняга ўзьбярэжжа Францыі затапіўся ангельскі акіянскі карабель"Іджып" У ім знаходзілася 1089 зьліткаў золата,1229 зьліткаў серабра і 164279 фунтаў стэрлінгаў у золаце.Увесь гэты вялізарны капітал ангельскі банк адпраўляў сваім філіялам у Індыі.

Пошукі пачаліся заразжа пасьля катастрофы і працягнуліся да 1933 года."Іджыпт" затапіўся на вялікай глыбіні і таму цяжка было дастацца да яго нутра.

Ужо больш як сто гадоў малая абтока Какос,якая належыць да сярэдня-амэрыканскае рэспублікі Коста Рыка,носіць назоў абтокі скарбаў.

Тут у 19-тым стагодзі хавалі награбленае багацьце славутыя піраты Дамп"е.пірат Бэніта,Шкот Томсон.Дасьледаваньнем іхняга сховішча займаліся гэткмя ведамыя людзі,як Мэлькам,Кемпбель,Ф.Д.Рузвэльт,былы прэзыдэнт ЗША,і іншыя.

Дакладна ўстаноўлена,што ў 1820 годзе пірат Шкот Томпсан "аблягчыў" гішпанскіх багачоў,якія ў паніцы ўцяклі з Лімы /Пэру/ у часе народна-вызвольнага руху.Награбленае імі золата і каштоўнасьці,вартасьць якіх даходзіла да 30 мільёнаў даляраў,схаваў на Какосе.Томпсан не здалеў скарыстаць з ўсяго гэтага дабра.

Пазьней было шмат спробаў адшукаць скарбы на Какосе,але гэта не ўдалося.

Зрэшты ня толькі ў мулаватым дне мора і на абтоках схаваны фантастычныя скарбы,якія бязупынна маняць аматараў прыгоды і хуткага ўзбагачаньня.Аднекаторага часу ў Францыі адбываюцца пошукі скарбаў сьвятара Беранжэ Сеньёра з Рон-ле-Шата,празванага Кюрэ-мільярдэрам. Ён разбагацеў пры таямнічых акалічнасьцях,дагэтуль не выясьненых. Пры жыцьці Кюрэ-мільярдэр пасьпеў скарыстаць усяго толькі нязначную частку іх скарбаў.Яго таямніцу ведала толькі яго эканомка і каханка - нейкая мадам Мары Дэнарна.У яе,як і у сьвятара ня было сваякоў.18 студзеня 1953 г. яна раптоўна памерла,забіраючы ў магілу таямніцу скарбаў.Афрыка і Амэрыка не менш багаты скарбамі,а яшчэ больш багатыя легендамі пра скарбы,а аматары дармовых багацьцяў заўсёды знойдуцца.

/Ніва № 33/

## КАМУ Й НАШТО

У газэце " Беларус " за лістапад 1963 год у абвесцы "Дар Лістапада" гаворыцца: " У лістападзе адзначаецца сьвята герояў, успамінаецца ўсіх тых,каторыя аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за вызваленьне Бацькаўшчыны-Беларусі ад чужацкае няволі"

Сказ даволі патрыятычны й на першы пагляд нявінны,але ў ём крыецца даволі цікавыя захованыя рэчы на якія мы і хочам зьвярнуць увагу,н.п. "успамінаюцца ўсе тыя,каторыя аддалі сваё жыцьцё не адказвае сапраўднасьці.Тыя,што пісалі,або падалі гэтую абвесттку,а яны напэўна зьяўляюцца сябрамі Рады БНР,ніколі не ўспаміналі і не аддавалі чэсьці ўсім тым,што аддалі жыцьцё за Беларусь.На акадэміях,ладжаных кожнага году ў гадаўшчыну Слуцкага Змаганьня ніколі "аўтарытэтныя" чыннікі Рады не толькі не дапускалі і не дазвалялі ўспамінаць усіх што паляглі за беларускую нацыянальную справу ў часе Другое Сусьветнае вайны,а наадварот,сумысна іх ігнаравалі ды паніжалі іхнія шляхотныя чыны,а гэта толькі таму,што гэты пэрыяд змаганьня ня быў пад кіраўніцтвам цяперашняе Рады БНР.

Калі гэта палічыць за дастатковы аргумэнт у суадносінах да загінуўшых у часе дзеяньня БЦР,то ніколі ня можна прабачыць кароткае памяці БНэраўскіх кіраўнікоў аб тых сапраўдных героях,што згінулі ў часе іхняга дзеяньня,або адыйшлі без успаміну на вечнасьць. А іх ня мала: Леанід Карась,які загінуў у Мюнхэне,або тыя "воўчых сьцежак",каторыя аддалі жыцьцё за волю Бацькаўшчыны, і шмат іншых.Не ўспамінаецца і ўдзельнік Слуцкага Змаганьня сьв.пам. Л. Рыдлеўскі,які Прэз.Абрамчыкам быў прывезены з Парыжа ў Лёндан і аддадзены на дагляд і апеку а. Сіповічу.А згодна пэўных вестак дагляд быў такі прыязны,што пасьля сьмерці нават адказнага мейсца на вечны супачынак не знайшлося,а пахаваны каля плоту,дзе герою змагару можна паставіць толькі часовы памятнік ня вышэйшы трэх стопаў. Вось якая заслуга вернаму змагару за ідэал незалежнасьці.

Далей ў абвесцы гаворыцца: "Злажы сваю ахвяру на "Дар Лістапада" на БНР - гэтым дапаможаш вызвольнай справе". Бачыце,як цынічна выкарыстоўваюцца Нацыянальныя Сьвятасьці,пішацца"у імя якіх злажы ахвяру на вызвольную справу",а ў сапраўднасьці грошы выдаюцца не на справу вызваленьня,а на раньбіцьцё бел.арганізацыяў на выгнаньні,каб праз гэта аслабіць нацыянальна-палітычны патэнцыял беларускага нацыянальнага змаганьня.

Кожнаму ведама,што для арганізацыйнае працы грошы неабходныя і патрэбныя,бо іначай арганізацыя ня зможа разьвіваць нармальна сваю дзейнасьц.Але тыя,што даюць грошы хочуць ведаць на якія мэты гэтыя грошы выданы,чаго аднак на працягу свайго дзеяньня Кіраўніцтва Рады БНР не лічыла сваім абавязкам гэта зрабіць.

Дзеля гэтага ў думках бел. грамадзянства і вытварыўся пагляд,што зьбіраныя грошы на "Дар Лістапада" вельмі ў неўзначнай часцы пайшлі на вызвольную справу,а выдаваліся пераважна на падарожжы людзям, якія езьдзілі з мэтаю ўносіць разлад у беларускім арганізацыйным жыцьці. Як прыклад можам узяць і паездку сп. В.Кендыша ў Нью Ёрк у красавіку 1963 году на паседжаньне,на якім вулучна абгаварвалася справа пазбаўленьне сп. К.Мерляка старшынства ў БАЗА і то толькі за тое,што ён не падтрымоўвае непрэдрэшэнскае палітыкі,якую падзеляе група ў Радзе БНР.

А таму сяньня ўжо мала ёсьць наіўных,каторыяб пасыпалі грашыма на цынічны заклік - Сакратарыяту Фінансаў Рады БНР.

Б.Лаўскі.

# С У П О Л Ь Н Ы   С А К А В І К

У першым нумары "Беларуса" воргану цяперашняе Галоўнае Управы БАЗА за лістапад 1963 год,незаконны Старшыня др. Ст. Станкевіч правёў гутарку з рэдакцыйнаю калегіяй "Беларуса",якую ўзглаўляе сам же др. Станкевіч,ў якой старшыня між іншым сам сабе адказваючы на пытаньні піша:

"Ранейшы падзел беларускай эміграцыі на два варожыя лягеры быў выкліканы ня толькі залежнымі ад нас самых прычынамі суб"ектыўнымі, як палітычная невыробленасьць,палітычныя памылкі некаторых,іхняя хвараблівая амбіцыя,а часам і злая воля і г.д."

Тут трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на выразы як:"палітычная невыробленасьць","палітычныя памылкі""ды іхнія хвараблівыя амбіцыі".. Гэта ўсё гаворыць др.Ст. Станкевіч аб іншых Беларусах,уважаючы сябе беззаганным. Аднак учасе сёлетніх перагавораў ў справе суполнага сьвяткаваньня 25-га Сакавіка выявілася,што ніхто іншы,а сам др. Ст. Станкевіч праявіў асабліва хвараблівую амбіцыю,якая ў супоалцы з падобнымі "непамыльнымі палітыкамі" давяла да падзелу беларускую эміграцыю ды і далей імкнуцца трымаць яе разеднанаю.

Перамовы аб супольным ладжаньні 46-тых угодкаў незалежнасьці Беларусі распачаліся яшчэ ў сьнежні 1963 году,а закончыліся аж 8га лютага 1964 году, і то дзякуючы толькі стойкасьці і адвагі старшыні Акругоўвае Управы БАЗА ў Нью Ёрку сп. Д. Клінцэвіча,які на паседжаньні Камітэту,бачачы,што др.Ст.Станкевіч мае намер сарваць супольнае сьвяткаваньне,заявіў наступнае:

"Згодна статуту БАЗА і колькі гадовай традыцыі,усе імпрэзы і ў тым ліку і адзначаньне Угодкаў Незалежнасьці, ладзіліся супольна, а таму і ў гэтым годзе Акруговая Управа БАЗА і Беларускі Кангрэсовы Камітэт правядуць сьвяткаваньне супольна. Ужо даволі ламаць і зьневажаць нашыя нутраныя законы і пастановы,і калі Галоўная Управа ня хоча ўзяць удзелу ў супольным сьвяткаваньні ў Нью Ёрку можа гэта наладзіць у іншым адзеле БАЗА".

Др. Ст. Станкевіч, не зьяўляючыся сябрам Камітэту,як няпрошаны госьць пакінуў паседжаньне,пасьля чаго сябры Камітэту дакладна опрацавалі плян і праграму ўрачыстасьці Сьвяткаваньня,вынесшы наступную пастанову: Супольнае Сьвяткаваньне,Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньне і Бел.Кангрэсовага Камітэту ,46-тых Угодкаў Незалежнасьці Беларусі адбудзецца ў нядзелю 22 сакавіка 1964 году ў Астор Готэл,у Нью Ёрку а гадзіне 2-гой папаўдні.

Ня можна не ўспомніць тут аб прачынах гэткіх доўгіх перамоваў паміж ўспомненымі вышэй двума бел. арганізацыямі.Перамовы,як ужо ўспаміналася распачаліся яшчэ ў сьнежні 1963 г. Распачала іх Галоўная Управа БАЗА і то ня ведама зь якіх мяркаваньняў,бо гэта справа належыць да мясцовага Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрк.
На першым паседжаньні прадстаўнікоў БАЗА і БКК пастаноўлена супольн сьвяткаваць згодна прынцыпаў прынятых у мінулым годзе. Але як дайшло да стварэньня арганізацыйнага камітэту сьвяткаваньня ,выявілася. што др. Станкевіч ня можа ўвайсьці ў ягоны склад,бо поўнасьцю падтрымоўвае непрэдрашэнскую канцэпцыю і належыць да іншых арганізацыяў,мэта якіх супярэчыць статуту БАЗА. Гэткая пастанова была вельмі не да спадобы др.Станкевічу як "старшыні" і ён катэгарычна зажадаў: "хоць і не належыць да складу К-ту,але павінен выступіць на акадэміі грамоваю" і калі гэта яму не ўдалося ,пастанавіў ладзіць сьвяткаваньне асобна.

Адсюль відавочна, што ніхто іншы, а толькі др. Ст. Станкевіч паказаў сваю "палітычную невыробленасьць", бо хацеў і тут прымяніць свой ранейшы дыктатарскі спосаб, але ня меў магчымасьці, бо людзі даведаўшыся аб гэтым узбурыліся і для вырашэньня справы пачалі дамагацца скліканьня Агульнага Сходу на што "старшыня" не пагадзіўся.

Дзеля гэтага распачаліся бязканечныя паседжаньні сяброў самое Галоўнае Управы, потым паседжаньні з Акругоўваю Управаю Нью Ерк, пашыранае паседжаньне з удзелам выбраных непрэдрашэнцаў, ды ізноў паседжаньні з Кангрэсовым Камітэтам і магчыма не былоб канца паседжаньням, каб старшыня Акругоўвае Управы ды ўсе сябры не сказалі: " досыць нас дзяліць, мы будзем працаваць і радзіць разам самі без вашае апекі і помачы, каб супольнымі сіламі асягнуць вызваленьне нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны і збудаваць Незалежную Беларускую Дзяржаву". А таму сьвяткаваньне 46-тых Угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ўрачыста адзначым разам з усімі Беларусамі незалежна ад іхняга партыйнага і царкоўнага падзелу.

Дапамажы нам Божа ў гэтай справе! - Б. Лаўскі-

==============================

П О Ш У К І: Сп. Д. Кажура шукае свайго сваяка Кулака Андрэя з жонкаю Марыяй, якія паходзяць з вёскі Мілявічы. Хто ведае аб іхнім сучасным мейсцы пабыту ў вольным сьвеце, ветліва просім падаць іхні адрыс у рэдакцыю "Уздыму".

==============================

УВАГА ДА ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ! УВАГА

Рэдакцыя і Адміністрацыя часопісу "Уздым" шчыра дзякуе ўсім тым, што адгукнуліся на наш заклік ды прыслалі ахвяры і матарыялы да друку. Калі б хто, з незалежных ад адміністрацыі прычынаў, не атрымаў квіта аб перасылцы грошаў, ветліва просім паведаміць рэдакцыю.

==============================

Беларускія арганізацыі, жадаючыя зьмясьціць свае абвесткі на балонках "Уздыму" просім падаваць поўны назоў і дакладны адрыс арганізацыі за подпісам Старшыні, або Сакратара.

==============================

Рэдакцыя і адміністрацыя гэтым ветліва прыпамінае ўсім тым, што не прыслалі падпіснае платы за часопіс, што высылка наступнага нумару ім будзе стрымана.

==============================

Нотны зборнік Малебных напеваў ў апрацоўцы сп. Кіслага, у якім зьмешчаны: Агульны Малебен, Малебен Збавіцелю, Малебен да Прэсьвятое Багародзіцы, Малебен Удзячнасьці і Сьвяцічелям з трапарамі, прыпевамі, кафізмамі і песьняю да Прэсьвятое Багародзіцы і Мнагалецьце, ужо вышаў з друку і можна замаўляць па адрасу: 3517 Вэст 25 Стрыт Кліўлен 9.

==============================

А Д К А З С П. А. Я. На Ваша пытаньне ці не зашмат у часопісе ўдзеляецца мейсца вунійнай акцыі паведамляем, што рэдакцыя стараецца прытрымоўвацца жаданьню нашых пав. чытачоў, ад якіх атрымоўваем мноства карэспандэнцыі на гэтую тэму, магчыма выкліканаю дзейнасьцю сп. Панюцэвіча і Ко.

==============================

# Х Р О Н І К А

Кліўленд:

31-га сьнежня супольнымі сіламі была наладжана сустрэча Новага - 1964-га Году. Аркестра "Палесьсе" пад кіраўніцтвам Ул.Літвінкі весяліла й цешыла прысутных. Салістка Іра Каляда сваім прыгожым сьпевам яшчэ больш упрыемніла час. Усе ўдзельнікі сустрэчы, Беларусы й госьці, не хацелі разыходзіцца амаль да рана. Касы арганізацыяў напоўніліся таксама.

6-7-га студзеня моладзь арганізавала калядоўшчыкаў, якія пад кіраўніцтвам акардыяністы Ул.Літвінкі з зоркаю й песьнямі завіталі ў беларускія хаты. Вадзілі пераважна малотшыя, вучні Беларускае Школы.

11-га студзеня Беларуская Школа арганізавала ялінку для дзяцей. Школьны драматычны гурток пад кіраўніцтвам Іры Каляды паставіў песу А.Зьмагара "Коляды". дзеці выконвалі свае ролі надзвычай добра. У другой часьці выступіў школьны хор пад кіраўніцтвам сп.К.Кіслага. Песьні перапляталіся вершамі, а Г.Каляда выканала солё на піяне. Сьвяты Мікалай раздаў падаркі для дзяцей. Бацькоўскі Камітэт наладзіў буфет.

9-га лютага адбыўся сход Аддзелу БАЗА. Гэта першы сход аддзелу пасьля тае зборкі, дзе адбыліся перавыбары і выбары на "Кангрэс". Сход асудзіў Грынькевічаву шкодную дзейнасьць у Аддзеле. Скарбнік заявіў, што некаторыя што галасавалі яму складак не плацілі, а некаторыя заплацілі перад сходам. Каб забяспечыцца перад такімі сходамі, пастанавілі,што хто ўступіць у арганізацыю пазьней, як тры тыдні перад перавыбарчым сходам, ня будзе мець голасу ў перавыбарах.

15-га лютага Маночае Згуртаваньне ладзіла чарговую вечарыну. З прычыны што свая аркестра "Палесьсе" не змагла граць у гэты дзень,была нанята аркестра Зьмітрэнкі. Для аркестры памагала салістка Іра Каляда. Падчас вечарыны была разыграна лятарэя.

18-га лютага беларуская калёнія ў Кліўлендзе скарыстала з прыезду Др.Янкі Станкевіча, які зрабіў даклад. Пасьля дакладу /гісторыя Беларусі/ задавалі пытаньні, а таксама адбылася ажыўленая дыскусыя на тэму актывізацыі беларускае эміграцыі і абеднаньне яе. Ад ньюёрскага дакладчыка, між іншых цікавых рэчаў, даведаліся, што ў Нью Ёрку тры чацьвертых Беларусаў за абеднаньне; сп.К.Мерляк 110 працэнтаў за абеднаньне; таксама і Др.Ст.Станкевіч"мае жаданьне абеднаньня, але да гэтага часу яшчэ не праявуляе". Таксама што галоўнай перашкодай да абеднаньня ёсьць прэзыдэнты. Дакладчык вельмі слушна заўважыў, што усе арганізацыі можна астаўляць, як ёсьць, а толькі не выступаць адна супраць другой, а памагаць пры выступах на вонкі і ў рознай працы ды стварыць агульнае прадстаўніцтва на Паўночную Амэрыку. Хоць прысутныя сабраліся праслухаць даклад гасьця зь Нью Ёрку, аднак Др.Грынкевіч, пасьля доўгае гутаркі дакладчыка пра Вялікае Княства Літоўскае, пачаў адкрываць Амэрыку, аж тросься даводзячы, што В.К.Л. была нашая дзяржава.К ня ён, то людзі , праслухаўшы даклад, пайшлі-б да дому, а гэтага і ня ведаліб. У дыскусыі бараніў непрадрашэнцаў. Казаў, што іхная праца ня розьніцца ад іншых, што працуюць на фабрыках. Тут варта заўважыць, што хто працуе на фабрыцы, той зарабляе грошы сваёй чэснай працай, сваім уласным мазалём, не прадаючы і не хвальшуючы імкненьні свайго народу.

Выдавецтва моладзі ўжо выдала царкоўныя ноты сп.К.Кіслага "Паніхіда і Паховіны". Раней выдана "Малебен". Цана аднаго экз. 1.оо дал.. Будуць выдавацца і іншыя Багаслужбы.

\+ + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + + +

Заклікаем усіх бацькоў, каб ужо пачалі заашчаджаваць грошы на летні лягер для дзяцей, які будзе сарганізованы ў "Менску". Цана ад дзіцяці мінімальная. Там дзеці навучацца шмат чаго свайго роднага ды адпачнуць на вольным павегры, пры возеры і басэйне.

## ВЯЛІКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У АДЭЛАЙДЭ - АЎСТРАЛІЯ

Дня 28 і 29 сьнежня 1963 году,вернікі сьв. Беларускае Аўтакефальнае Царквы ў Адэлайдэ,перажывалі вялікую радасьць.У гэтыя дні адбывалася высьветчаньне нова-пабудаванае Беларускае Царквы-Памятнтка,пабыту беларускіх выгнанцаў на чужыне,пабудаванае собскімі высілкамі.

Чын асьвячэньня быў выканаины: Главою Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Высокапрэасьвяшчэньняйшым Архіепіскапам Сергіемі Высокапрэасьвяшчэньняйшым Епіскапам Варлаамам у саслужэньні Мітрафорнага пратаіерэя М.Шчурко,з інцыятывы якога і пабудаваная гэтая сьвятыня,Архімандрыта Данііла і а.Папоса з Грэцкае Праваслаўнае Царквы,а. А. Кулакоўскага,а. Іоана-Архідыякана Ангельскае Царквы,а. Протадыякана А н д р э я Дзівака-украінскае Прав. Царквы,дыякана ь.Чычэліса.У часе высьветчаньня ў царкве прысутнічаў і Мэр гораду Хаймарш маёр.

Урачыстую Багаслужбу ўпрыгожваў сваім мілагучным сьпевам добра зарганізаваны хор пад кіраўніцтвам рэгента п. Словачэўскага.

Саборная Ўрачыстая Архіерэйская Багаслужба не магла не ўзрушы сэрцаў прысутных сапраўдных вернікаў,якія ўзносілі шчырыя малітвы складаючы Богу падзяку,што дазволіў ім распачатую справу- будову сь Сьвятыні,памысна закончыць,дзе ёсьць магчымасьць ня толькі славіць Бога,маліцца за шматпакутны Беларускі Народ і Бацькаўшчыну-Беларусь, але і быць прыкладам для будучага пакаленьня,якое павінна стацца спадкаемцам набытае Царквы.

А для Высокапрэасьвяшчэньняйшых Уладыкаў Сергія і Варлаама,Высокадастойным Айцом,дыяканам і рэгенту братняга ўкраінскага народу і хору ды ўсім інцыятарам,ахвярадаўцам і будаўнікрм,належыць шчырая падзяка.

==================

## ПЕРАВЫБАРЫ ЦАРКОЎНАЕ РАДЫ Ў ПАРАФІІ БАПЦАРКВЕ Ў КЛІЎЛЕНД.

Гадавы перавыбарчы сход парахвіянаў ЖБМАЦІ ў Кліўленд,адбыўся дня 16 лютага г.г. З упаважненых да галасаваньня на сходзе прысутнічала 72 асобы.

Сход распачаўся малітваю "Цару Небесны".У Прэзыдыюм сходу былі выбраны: сп. Гумен на Старшыню,с-ры Дварэцкі і Літвінко на Сакратароў

З справаздачы ўступаючай Рады сп.Каргіловіча і сп.Ягаўдзіка,для кожнага прысутнага было відавочным,што ў справах арганізацыйных і касавых абаротах,якія перавысілі праектаваны бюджэт, Рада выканала даручаныя абавязкі вельмі добра,а таму Сход аднагалосна ўдзяліў уступаючай Радзе абсалюторыюм з падзакаю.Падзяка была выказана і ахвярадаўцам:Бел.Жаночаму Згуртаваньню за ахвяраваныя Іконы,С-ву Валюкевіч, сп. Міхальчык,с-ву Літвінко і с-ву Радзюк за ахвяраваны падсьвечнікі с-ру Скабеліну за ахвяру Дарахраніцельніцы.

У склад нова-выбранае Царкоўнае Рады ўвайшлі:сп.С.Карніловіч-Старшыня,сп.А.Яраховіч-заступнік, сп.М.Гумен-сакратар,сп.М.Ягаўдзік-скарбнік,сп.А.Лук"янчук,с-ня К.Каляда, сп-ня В.Шпэндзік-сябрамі,сп. М.Пэнда - Царкоўным Старастам.

У Рэвізыйную Камісыю выбраны: сп. А. Семенчук, сп. У.Літвінко, і сп. У. Дунец.

Плян працы на бягучы год даручана апрацаваць нова-выбранай Царкоўнай Радзе.

Малітваю "Дастойна Есьць" прысутныя выказалі падзяку Прэсьвятой Багародзіцы за памысныя абрады Сходу.

## БЛАСЛАВІ, БОЖА, ВЯСНУ КЛІКАЦЬ

/гукальная/

Мерна

Бла- сла- ві, Бо- жа, вяс- ну клі- каць,

Хор ой зім- ку пра- ва- жаць, ой ле- та да- жы- даць,

гу /у/! fine

Ты нясі ключы, шыза галачка,
Зімку замыкай,
Лета адмыкай, гу!

На густое жыта ўрадліваое,
Ў полі капамі,
Ў гумне стагамі, гу!

Дзякуй Богу, што вясна прыйшла,
Што вякна прыйшла,
Цяпло прынясла, гу!

Пры выкананьні гукальных вясьнянак дзяўчаты часта падзяляюцца на групы й гукаюць па- чарзе, калі йдуць дамоў, дык сьпяваюць разам.

## БЛАСЛАВІ, БОЖА, ВЯСНУ КЛІКАЦЬ

/варыянт/

Блаславі, Божа, вясну клікаць,
Зімку праважаць,
Лета дажыдаць, гу!

Сьвяты Юры, што той Божы пасол,
Што Божы пасол,
Да Бога пайшоў, гу!

Ды ўзяў ён ключы залатыя,
Ўзяў у Бога ключы,
У цёмнай начы, гу!

Адымкнуў ён зямлю сырусеньку
Ды пусьціў расу,
Ой, цяплюсеньку, гу!

Адымкнуў зямлю ды пусьціў расу
На усю Беларусь
Й на ўвесь Божы сьвет, гу!

ЖЖЖЖЖ
ЖЖЖ
Ж